

Помнік савецкім салдатам - вызваліцелям у Беластоку.
Фота — Л. Каралеўскі.

Сепа 60 gr. Цава 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (167) БЕЛАСТОК, 10 МАЯ 1959 года ГОД IV

# ПЕРШАМАЙСКАЕ СВЯТА Ў БЕЛАСТОКУ

Напярэдадні свята працоўных 1-га Мая Беласток, як і ўсе гарады нашай краіны прыадзеў святочныя шаты. Вуліцы горада ўпрыгожаны грамаднымі партрэтамі партыйных і дзяржаўных дзеячоў краіны. На дамах чырвань сцягоў, транспарантаў і лозунгаў. Святочны настрой адчуваецца і ў прадуктовых магазінах. Тут рух, мітусня, поўна пакупнікоў.

30 красавіка ў Беластоцкім тэатры ім. А. Вянгеркі адбылася ўрачыстая Першамайская акадэмія. У прэзідыуме акадэміі старыя ветэраны, партыйныя і грамадскія дзеячы Беласточчычы на чале з сакратарамі Ваяводскага Камітэта партыі: А. Лашэвічам, П. Любянецкім і Я. Сянкевічам. Удзельнікі акадэміі сардэчна і горача віталі прадстаўнікоў Гродзеншчыны ў асобах Васіля Булая — члена бюро Гродзенскага абкома КПБ, галоўнага рэдактара «Гродзенскай праўды», Леанарда Барысевіча — сакратара Мастоўскага райкома КПБ і Анастасіі Красоўскай — прафсаюзнага дзеяча, якія прыбылі ў Беласток на Першамайскае свята.

Акадэмію адкрыў старшыня Ваяводскай паразумеўчай камісіі прафсаюзаў у Беластоку тав. Мікола Туроўскі. Прысутныя з вялікай увагай выслухалі даклад І-га сакратара КВ ПАРП тав. А. Лашэвіча, у якім шмат успаміналася аб слаўных, рэвалюцыйных подзвігах працоўных Беласточчыны.

У заключэнні акадэміі, усрыняты гучнымі апладысментамі, выступіў дзяржаўны ансамбль песні і танца «Мазоўшэ».

Назаўтра, у дзень 1-га Мая, з самай раніцы на вуліцы горада высыпалі тысячы беластачан. Малышы, моладзь, старэчы, — усе па-святочнаму апрануты, усе ўрачыстыя, з прыўзнятым настроем. Добры, урачыста - радасны настрой надае, відаць, і такі факт, што ўжо 15 раз жыхары горада святкуюць дзень 1-га Мая ў вольнай краіне.

А дзень сёння сапраўды майскі, сонечны. І вецер, які часад-часу ўзнімаецца, нікога не палохае. Калышучы грамаднымі палотнішчамі сцягоў і транспарантаў, ён надае яшчэ большай маляўнічасці святочнаму гораду.

Роўна ў 10 гадзін радыё пачынае трансліраваць Першамайскую ўрачыстасць са сталіцы. З рэпрадуктараў ліюцца звукі дзяржаўнага гімна. Міліцыянеры і вайсковыя бяруць пад казырок. Тысячы жыхароў горада, якія стаяць цесным натоўпам паабапал вуліцы Ліповай, Рынку Касцюшкі і Кілінскага, з вялікай увагай слухаюць першамайскую прамову І-га сакратара ЦК ПАРП тав. У. Гамулкі. З рэпрадуктараў даносяцца залпы артылерыйскіх выстралаў. Жыхары сталіцы рушылі ў Першамайскі паход.

І ў нас ад вуліцы Ліповай пачуліся энергічныя гукі марша. Пачынаецца першамайскі парад. Да ганаровай трыбуны, устаноўленай на Рынку Касцюшкі, набліжаюцца сцяганосцы. На трыбуне займаюць месцы прадстаўнікі ваяводскіх партыйных улад на чале з І-шым сакратаром КВ ПАРП тав. А. Лашэвічам, прадстаўнікі ваяводскіх улад, ветэраны рабочага руху на Беласточчыне, кіраўнікі маладзёжных арганізацый і госці з Савецкай Беларусі. Вайсковы аркестр з маршу займае месца насупраць ганаровай трыбуны. Пад гукі аркестра перад трыбунай перасоўваюцца калоны дэманстрантаў. Чоткімі крокамі праходзяць атрады беластоцкіх гарцэраў. За калонамі гарцэраў ідзе група членаў ЗБОВіД, удзельнікаў барацьбы за народную Польшчу, за шчасце новых пакаленняў нашай краіны.

Бурай апладысментаў тысячныя натоўпы вітаюць калоны рабочых Беластока, якія людскім патокам запаўняюць шырыню ўсёй вуліцы. Над імі мора чырвоных сцягоў, транспарантаў, заклікаючых змагацца за мір, за далейшыя дасягненні ў нашым жыцці і працы.

(Працяг на стар. 2)

# КРАІНА АДУКАВАНЫХ ЛЮДЗЕЙ

Каб дакладней уявіць сабе здабыткі нашай народнай улады ў галіне асветы, разгледзім некалькі цыфр і фактаў. Параўнаем іх з недалёкім мінулым развіцця асветы пры ўладзе памешчыкаў і капіталістаў у даваеннай санацыйнай Польшчы.

Паны і іх улада не толькі не дбалі аб тым, каб даць працоўным магчымасць навукі, але наадварот, як мага памяншалі выдаткі на народную асвету. Варта ўспомніць, што ў 1929/30 годзе на асвету ў Польшчы выдана 643 мільёны 200 злотых. Потым гэтыя «нявыгадныя» санацыйнаму ўраду выдаткі пастулова падалі і ў 1934/35 годзе знізіліся да 411 мільёнаў 200 тысяч злотых.

У самым горадзе Беластоку ў 1929/30 годзе выдана на асвету 393 тысячы 595 злотых, а праз 5 год гэтыя выдаткі паменшыліся да 256 тысяч 163 злотых. Санацыя была больш зацікаўлена ва ўзмацненні паліцэйскай сістэмы, чым у развіцці асветы і таму, што, як падае афіцыйны статыстычны гадавік, у 1929/30 годзе на ўтрыманне паліцыі выдана ў Беластоку 359 тысяч 148 злотых — амаль столькі ж, колькі на асвету.

Кожны адукаваны рабочы і селянін быў для санацыйнага ўрада небяспечны і таму ўлады імкнуліся дапусціць у школу як мага менш дзяцей працоўных. Малая колькасць сярэдніх школ і высокая аплата за навуку на практыцы не давала магчымасці дзецям рабочых і сялян вучыцца. Гімназіі, ліцэі і вышэйшыя навучальныя ўстановы былі даступнымі толькі багатым.

Санацыйныя ўлады, ажыццяўляючы палітыку каланізацыі і паланізацыі беларускіх, украінскіх і літоўскіх зямель рабілі ўсё, каб задушыць нацыянальную свядомасць і культуру гэтых народаў. Пагромы і бясконцыя арышты членаў беларускай культурна - асветнай арганізацыі «Грамада» і членаў Таварыства беларускіх школ, афіцыйная забарона беларускіх школ давяла да таго, што на 3 мільёны беларускага насельніцтва ў Польшчы ў 1936/37 годзе было толькі 8 беларускіх падставовых школ і 1 беларуская гімназія. Толькі 1 200 беларускіх дзяцей маглі атрымоўваць адукацыю на сваёй роднай мове. Гэта значыць, што па-беларуску мог вучыцца толькі адзін школьнік на 800 беларускіх дзяцей школьнага ўзросту.

Палітыка каланіялізма прывяла да таго, што на Піншчыне 71 прац. насельніцтва быў непісьменным.

Неабходна адзначыць, што беларускія школы былі на ўтрыманні бацькоў і вучняў. Польскі ўрад не даваў ім амаль ні граша.

(Працяг на стар. 2)



Беларускі калектыў песні і танца ГП БГ-КТ перад першамайскай трыбунай у Беластоку.
Фота — Л. Каралеўскі.

Карэспандэнцыя з Мінска

# ЧАЛАВЕК ГАРАЧАЙ ПРАФЕСІІ

Шматтыражная газета Мінскага аўтазавода пад гучным загалоўкам паведамляла аб новай ініцыятыве вядомага сталявара, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Дзмітрыя Іванавіча Барашкіна. «У першым годзе сямігодкі, — піса Д. І. Барашкін у сваім абавязацельстве на 1959 год, — я даю слова на тым жа абсталяванні павялічыць выплаўку сталі, супраць 1958 года, на 20 працэнтаў і эканоміць пры гэтым штомесяц не менш 20 тысяч кілават - гадзін электраэнергіі».

Скажам проста, гэта абавязацельства многім паказалася нерэальным. Кожны, хто хоць крыху знаёмы з ліцейнай вытворчасцю, ведае, што гэта праца — не з лёгкіх. Кожны працэнт перавыканання вытворчага задання, нават дзесятая частка яго, даюцца з вялікім трудом.

Сталявар Барашкін набіраў тэмпы. Разам са сваім падручным ён кожную змену стаў выдабываць па 15 — 16 тон сталі.

Выкарыстоўваючы вопыт Барашкіна, прыкметна палепшылі паказчыкі і іншыя брыгады. У сталеліцейным цаху паявіўся лішак металу. Гэта падштурхнула фармаўшчыкоў: не выліваць жа сталь назад у печ?! І вось пад заліўку стала паступаць усё больш і больш дабротных формаў. Так ініцыятыва сталявара Барашкіна ўскалыхнула ўвесь цэх.

Рабочыя ўчастка стальнога ліцця, дзе працуе Д. І. Барашкін, вырашылі арганізаваць першую ў цаху комплексную брыгаду ліцейшчыкаў, у склад якой, акрамя сталявараў, увайшлі фармаўшчыкі, заліўшчыкі і рабочыя іншых спецыяльнасцей, якія ўсе разам і забяспечваюць увесь цыкл ліцейнай вытворчасці ў змене. Брыгада дала слова датэрмінова выканаць вытворчы план першага года сямігодкі і адразу ж уключылася ў спаборніцтва за права называцца калектывам камуністычнай працы.

З таго дня прайшло нямнога часу, а аб комплекснай брыгадзе ўжо ідзе добрая слава. Калі сталявар Д. І. Барашкін поымаў удзел у працы XXI партыйнага З'езду, сталеліцейшчыкі паслалі ў Маскву тэлеграму, у якой расказалі аб паспяховым выкананні перадз'ездаўскіх абавязацельстваў.



Сталеліцейны цэх — сэрца машынабудаўнічага прадпрыемства.

...У нашага субяседніка адкрыты твар. Успамінаючы асобныя дэталі св ёй біяграфіі. Дзмітры Іванавіч расказвае.

— Сваё працоўнае жыццё я пачаў у 1940 годзе. 18-гадовым хлопцам паступіў рабочым на адну з будоў Віцебска. Думаў стаць будаўніком. А тут вайна.

У пачатку 1942 года Дзмітры Барашкін уступіў у адзін з партызанскіх атрадаў, якія змагаліся супраць фашысцкіх захопнікаў у лясах роднай Беларусі.

Але вось вайна скончылася. У 1944 годзе, пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, Дзмітры Барашкін вярнуўся да мірнай працы. У ліку першых адгукнуўся на заклік камсамола ісці на будаўніцтва Мінскага аўтамабільнага завода. З гэтага дня ён і звязаў свой лёс з калектывам гэтага прадпрыемства.

За высокія паказчыкі ў працы, за плённую працу ў галіне развіцця металургіі ён узнагароджан вышэйшай узнагародай — ордэнам Леніна.

Добры працаўнік, чулы таварыш, Дзмітры Іванавіч карыстаецца заслужаным аўтарытэтам у шматтысячным калектыве аўтамабілебудаўнікоў. І не выпадкова 1 сакавіка працоўныя зноў, другі раз, выбралі Д. І. Барашкіна, сталявара Мінскага аўтамабільнага завода, дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі.

П. БОРЫН

---

**П. БАРАШАЎ і В. КІТАІН** 13)




(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікамі П. Н. Сахаравым і Нагаевым)

Здарова, зямляк. Сядай, Міхась!—белабрысы назваўся Сцяпанам Гарабцом, уражэнцам Магілева. — Дадому, значыцца, захацелася? Так, трэба было б дадому, сэрца стогне на чужыне... — спешна гаварыў ён, не даючы апамятацца Арцюшэўскаму. — Лютае гора перанеслі мы з табою, зямляк. Але яшчэ большае гора чакае нас дома!

— Якое гора? Перамога ж! — усклікнуў Арцюшэўскі.

— Перамога, ды толькі не для нас. Ты ж палонны! Зразумеў — палонны! Быў у немцаў, служыў амерыканцам. А камуністы, ведаеш, што цяпер робяць з такімі, як ты? Калыма, Камчатка, лагеры і катаванні — вось што цябе чакае дома...

— Я ж не вінаваты ні ў чым...

— А гэта ты будзеш даказваць у энкавэдэ, калі дакажаш! Вось пачытай, што расказваюць аб лёсе былых палонных.

Гарабец працягнуў пачку газет. Тут былі «Сяўба», «Бацькаўшчына» і некалькі нейкіх часопісаў.

У вочы кінуліся абведзеныя алоўкам буйныя загалоўкі «Бальшавіцкі тэрор у Беларусі», «Я ўцёк ад іх катаванняў».

Арцюшэўскаму і раней сустракаліся падобныя газеткі са злоснай антысавецкай прапагандай, але тады ён думаў, што іх выпускаюць немцы. Цяпер немцы разбітыя, а газеты свежыя.

— Колькі гадоў табе, Міхась?

— Дзевятнаццаць...

— Мала ты яшчэ пажыў на белым свеце, а ўжо захацеў нізавошта ісці на катаргу. Ну, ды сам вырашай, я цябе не няволю, — на здзіўленне Арцюшэўскага Гарабец устаў, развітаўся, але, перш чым выйсці, дадаў: — Глядзі толькі, потым пашкадуеш, ды позна будзе...

Некалькі начэй Арцюшэўскі не спаў. Словы Гарабца не выходзілі з галавы, а артыкулы з «Сяўбы» і страшэнныя апавяданні «відавочцаў» з «Бацькаўшчыны» ён перачытаў па некалькі разоў. Хутка Юзэк і Зыгмунт паехалі.

— Будзем прабірацца на ўсход, дахаты, — сказалі яны на развітанне. — А ты, Міхась?

— Застаюся... — нерашуча адказаў Арцюшэўскі.

І пачаліся гады яго бадзянняў. Заходняя Германія, беспрацоў'е, нэндза і голад. Н'ю-Йорк, ізноў пошукі працы. У штаце Пенсільванія яго схапіла паліцыя і выслала, як бадзягу, на Гудзонавы астравы. Тры месяцы сядзеў ён у лагеры бадзяг, чужы ўсім на свеце. Хутка Арцюшэўскага пад канвоем пасадзілі на судна, якое ішло ў Заходнюю Германію, у Гамбург. Гамбургская паліцыя накіравала хлопца ў горад Вюрцбург, у лагер для так званых перамешчаных асоб, дзе яго доўга трымалі.

Ён вышаў з лагера без граша і, наняўшыся пасудніцай, паехаў шукаць працы ў Англію. Але замест працы яго спаткала эміграцыйная паліцыя і зноў засадзіла ў лагер. І зноў некалькі месяцаў зняволення і цяжкія сельскагаспадарчыя працы на «волі».

Аднойчы туманнай шэрай раніцай Арцюшэўскі бадзяўся па лонданскай вуліцы Пенрад.

— Прывет, Міхась! — пачуў ён родную беларускую мову. Перад ім стаяў Аляксандр Шчацько — той самы Сашка Шчацько, з якім іх разам вывезлі з Асіповіч. Тады Шчацька высадзілі недзе на паўдарозе, і з таго часу яны больш не бачыліся.

— Здарова, Сашка, — узрадаваўся Арцюшэўскі — Ой, якім ты франтам стаў! Разбагацеў? Можа маеш якую працу?

Арцюшэўскі з надзеяй глядзеў на модны плашч Шчацька, на яго бліскучыя чаравікі і беласнежную кашулю.

— Добра, абмазгуем гэтую справу! — Шчацько ўзяў пад руку Арцюшэўскага і піхнуў у дзверы нейкага бара.

— У мяне падыходзячай працы цяпер няма. Але сябар адзін ёсць. Барыс Рагуля. Магчыма, чуў? Не, ну гэта не важна. Ён табе дапаможа знайсці працу

Шчацько неахайна кінуў некалькі шылінгаў на круглы мармуровы столік, падняўся, глянуў на гадзіннік.

— Пайшлі, Рагуля цяпер павінен быць у сябе ў гасцініцы.

(Працяг на стар. 5)

---

З ГІСТОРЫІ КАМСАМОЛЬЦАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

4)

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ

У 1925—1927 гады камсамол пад кіраўніцтвам КПЗБ шырока разгарнуў масавую палітычна - асветную работу ў Грамадзе. Рабоча - Сялянская Грамада ў той час з'яўлялася легальнай арганізацыяй і мела вялікі ўплыў на сялян. Масавасць гэтай арганізацыі, узмацненне яе ўплыву сярод сялян, рабочых і рамеснікаў напалохалі санацыйны ўрад. Пачалася кампанія цкавання, паклёпу, праследванняў і правакацый. Урад Пілсудскага, не будучы ў сілах авалодаць «Грамадой» праз сваіх агентаў — беларускіх нацыяналістаў, вымушан быў разграміць яе. У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 года паліцыя ўсюды правяла арышты. Сотні юнакоў і дзяўчат, якія з'яўляліся членамі «Грамады», былі кінуты ў турмы.

Санацыйны ўрад, разграміўшы «Грамаду», абрушыў свае рэпрэсіі супраць Камуністычнай партыі і камсамола, арганізаваў рад палітычных працэсаў.

Вясной 1928 года ў Беластоку судзілі 133 членаў КПЗБ і КСМЗБ. Па гэтаму ж працэсу праходзіла і Вера Харужая. У Брэсце судзілі 46 камуністаў і камсамольцаў. У 1929 годзе ў Беластоку быў арганізаван «працэс 33», а ў Гродна — «працэс 75». Асобныя члены КПЗБ і КСМЗБ былі прыгавораны к 10—15 гадам турэмнага зняволення. Гэта былі цяжкія гады для рэвалюцыйнага руху.

12 сакавіка 1928 года ў Варшаве, у час пасяджэння, быў арыштаван сакратарыят ЦК КСМЗБ: Шчапоўскі («Косця»), Несцер Андраюк («Валодзя») і Станіслаў Радкевіч («Пеця»).

Урад прыкладаў усе намаганні да таго, каб знішчыць Камуністычную партыю і Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі. У сувязі з гэтым, па ваяводствах складаліся спецыяльныя карты, на якіх умоўнымі значкамі наносіліся населеныя пункты, дзе былі ячэйкі, райкомы КПЗБ і КСМЗБ.

Камсамол Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ і пры дапамозе ЦК КСМ Польшчы і КІМа прыкладаў усе намаганні да таго, каб не толькі захаваць свае палітычныя пазіцыі, але і расшырыць уплыў на моладзь. На месца арыштаваных членаў ЦК КСМЗБ, камсамольскіх актывістаў, станавіліся новыя, праверaныя таварышы.

У сувязі з тэрорам і праследваннямі сакратарыят ЦК КСМЗБ вымушан быў часта перамяшчацца з месца на месца ў Варшаву, Вільню, Беласток, Брэст.

(Працяг на стар. 4)

 

# АБ ДЫПЛАМАВАНЫХ ЗЕМЛЯРОБАХ

На III З'ездзе Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі, між іншым, шмат гаварылася аб неабходнасці далейшага, значна шпарчэйшага развіцця сельскагаспадарчай асветы. І гэта зусім зразумела, зважыўшы веліч заданняў, пастаўленых партыяй у галіне развіцця сельскай гаспадаркі.

Паспяховая рэалізацыя гэтых заданняў пры адсутнасці кваліфікаваных земляробчых кадраў была б немагчымай. З другога боку, пры наяўнасці шпаркай механізацыі нашай сельскай гаспадаркі і ўсё навейшых метадаў апрацоўкі зямлі жыццёвай неабходнасцю з'яўляецца масавая адукацыя сялян, ад якой бадай у найбольшай ступені залежыць рост сельскагаспадарчай вытворчасці. Толькі кваліфікаваны земляроб зможа поўнасцю выкарыстоўваць здабычы навейшай сельскагаспадарчай тэхнікі. Толькі такі селянін зможа падымаць сваю гаспадарку на ўсё вышэйшы ўзровень і ісці крок у крок з сучасным прагрэсам, які мае адпаведныя сельскагаспадарчыя веды, які патрапіць выкарыстоўваць у сваёй працы багацейшую фаховую літаратуру.

І яшчэ адна справа. Некваліфікаванаму селяніну цяжка, так сказаць, зірнуць за мяжу сваёй гаспадаркі. Брак кваліфікацыі ланцугом прывязвае яго да вузенькіх палосак і да дзядоўскіх метадаў апрацоўкі іх. Іншая справа, калі селянін становіцца кваліфікаваным земляробам.

Сельскагаспадарчая асвета на Беласточчыне ставіць першыя, усё яшчэ няўпэўненыя крокі. Калі не лічыць сельскагаспадарчых гурткоў, у якіх праводзяцца гутаркі на сельскагаспадарчыя тэмы, дык зараз на Беласточчыне існуе толькі 75 двухгадовых школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, у якіх звыш 2 тысяч сялян атрымоўвае пачатковую сельскагаспадарчую адукацыю. Як на Беласточчыну, дык гэта кропля ў моры.

У чым жа справа? Ці ж не хапае ў нас кваліфікаваных кадраў, якія змаглі б павесці вучобу ў значнай большасці такіх школ?

Не, кадры ў нас ёсць. І высокакваліфікаваныя кадры. Справа ў тым, што самі сяляне не заўсёды маюць ахвоту вучыцца. Шмат школ, напрыклад, у Бельскім і іншых паветах Беласточчыны не маглі арганізавацца толькі таму, што не было там ахвотных да навукі.

На маю думку, справай падборкі і заахвочвання сялян да навукі, між іншым, павінны заняцца вясковыя гурткі нашага таварыства. Нельга гурткам адрывацца ад гаспадарчага жыцця вёскі. Ну, і, зразумела, члены гурткоў перш за ўсё самі павінны быць слухачамі такіх школ. І вясковыя настаўнікі не малую ролю могуць адыграць у арганізацыі такіх школ, калі яны сапраўды возьмуць гэтую справу да сэрца.

Вось, напрыклад, школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Зубаве, Бельскага павета. Яна арганізавана па ініцыятыве мясцовых настаўнікаў, а асабліва кіраўніка школы Аляксея Карпюка.

Спачатку і тут не было жадаючых вучыцца. Тады настаўнікі праводзілі гутаркі з паасобнымі сялянамі, і асабліва з моладдзю. Моладзь заўсёды ахвотней горнецца да навукі.

Пасля яшчэ настаўнікі звярнуліся з гэтым да членаў партыі. На сходзе пярвічнай партыйнай арганізацыі вёскі справа падборкі слухачоў да сельскагаспадарчай школы была шырока абмеркавана. У выніку — большасць членаў партыі запісалася ў школу. Зараз вучыцца ў ёй 27 зубаўскіх сялян. Гэта пераважна моладзь. Ёсць і дзяўчаты. Пройдзе яшчэ год, і яны пасля заканчэння школы атрымаюць дыпломы кваліфікаваных земляробаў.

Зубаўская школа існуе ўсяго першы год. Аднак на працягу гэтага кароткага часу яна здабыла сабе правы грамадзянства ў вёсцы. Дзякуючы добрым метадам навучання інжынера па сельскай гаспадарцы мгр. Барыслава Руткоўскага (у школе дэманструюцца навуковыя кінафільмы на тэмы, выкладзеныя на лекцыях), школай цікавіцца ўсё больш і старэйшых сялян вёскі. Напрыклад, сяляне Кастусь Асіпюк, Кандрат Андраюк, Мікола Андраюк, Сяргей Вязоўскі і іншыя, хоць яны афіцыяльна і не з'яўляюцца слухачамі, а ўсё ж вельмі часта прыходзяць на лекцыі.

Варта падумаць над тым, каб сялян нейк матэрыяльна зацікавіць да навукі. Чаму б, напрыклад, не выдаць нейкага мясцовага распараджэння, што селянін, які мае дыплом заканчэння двухгадовай сельскагаспадарчай школы, мае, напрыклад, права ў першую чаргу купіць такую ці іншую сельскагаспадарчую машыну, такі ці іншы атракцыйны будаўнічы матэрыял.

Ці гэта заахвоціць сялян да навукі? Напэўна!

Справа ў тым, каб дыпламаваных земляробаў было ў нас штораз больш. Толькі такія земляробы змогуць узняць нашую сельскую гаспадарку на вышэйшы ўзровень, толькі такія сяляне змогуць поўнасцю рэалізаваць заданні, пастаўленыя партыяй.

В. БАРШЧЭЎСКІ

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА



Лось. фото — М. Валкавыцкі

З гісторыі камсамольцаў

## КАМПАНІЯ ЗА РАЗВІЦЦЕ ТБШ

*(Працяг са стар 3)*

Пасля арыштаў і забароны «Грамады», камсамол разам з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі разгарнуў масавую кампанію за развіццё другой арганізацыі нацыянальна - вызваленчага руху — Таварыства беларускай школы — ТБШ. Неабходнасць стварэння ТБШ дыктавалася самім жыццём.

У 1919 годзе, у час устанаўлення Савецкай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі, было адкрыта 400 школ на беларускай мове, працавалі бібліятэкі, клубы, тэатры. Санацыйныя ўлады ўсё гэта знішчылі. 16 беларускіх школ, якія засталіся, былі рэарганізаваны ва ўтраквісцкія (двумоўныя: польска - беларускія). Большасць дзяцей беларусаў не вучылася. Дзеці, якія скончылі першапачатковую польскую школу, фактычна былі непісьменнымі, таму што дома яны гаварылі выключна на сваёй мове і польская імі забывалася. Дарэчы, у Беластоцкім ваяводстве нават двумоўных школ не дазвалялася адкрываць і ўсе школы былі польскі: і. Беларуская мова праследвалася. Ва ўстановах яна лічылася няпоўнакроўнай. Грамадзян, якія валодаюць толькі беларускай мовай, польскія чыноўнікі адносілі да катэгорыі непісьменных і, спасылаючыся на канстытуцыю, пазбаўлялі іх выбарчых правоў.

(Працяг у наступным нумары)

З жыцця вёскі

## РАГАЧЫ

За лесам над лугам, быццам вялікім калясом, стаяць будынкі вёскі Рагачы (Сямяціцкі павет). З аднаго боку луга сярод сялянскіх хат стаяць невялікі будынак школы, царква і крама. З другога — святліца, памяшканне Прэзідыума ГРН, а далей — магільнік.

Бруку тут нідзе няма, і на прадвесні або глыбокай восенню можна ўтапіцца ў балоце.

### РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ ПАЛЕТКАЎ

У Рагачах існуе цераспалосіца, ды такая бесталковая, што, напэўна, ва ўсёй Польшчы няма такіх зямельных цудаў. У гаспадара, які мае 8 га зямлі, яна больш, чым у 30 кусках. Падлічана, што ў 15-гектарнага гаспадара ёсць каля 70 кускоў зямлі. Паводле падлікаў Рагачоўскіх сялян, па прычыне такой раздробленасці іх гаспадаркі патрабуюць у 4 разы большага накладу працы ў параўнанні з іншымі вёскамі. Вось таму Рагачы ніяк не могуць вывязацца з абавязковых паставак збожжа і мяса.

Аб такім зямельным становішчы ў Рагачах ведаюць павятовыя ўлады, і пры іх дапамозе ў 1954 годзе сталі вясціся працы, каб сцаліць грунты. Але, нажаль, гэта робіцца так, як мокрае гарыць.

Няма ўпэўненасці ў тым, што да 5-гадовага юбілею ад пачатку першых сцаляневых прац будзе зроблены парадак з зямлёй у Рагачах.

### ВЕСЕЛА БЫЛО.

Рагачы ў мінулыя гады славіліся таленавітым мастацкім калектывам. Рагачоўскі хор вядомы на ўвесь павет. Выступаў ён паспяхова і ў Беластоку. Былі гэта гады 1950 — 1955. Жыхары вёскі і сёння ўспамінаюць той час, калі ў святліцы захапляліся яны выступленнямі сваёй вясковай моладзі. Нажаль, цяпер Рагачоўская моладзь перастала цікавіцца самадзейнасцю. Заняпаў мастацкі калектыў. І невядома, калі ён абудзіцца, тым больш, што няма цяпер «этату» святліцовага, які быў галоўным арганізатарам мастацкай самадзейнасці. Юнакі і дзяўчаты спяваюць часта, але няма ўжо той згуртаванасці. Вось, напрыклад, як прыдзе да Ірэны Акончук Вера Такаюк, дык як зацягнуць яны песню, дык сапраўды ёсць што паслухаць. А такіх таленавітых дзяўчын ёсць шмат у Рагачах. І хлопцы добра спяваюць. Арганізатара толькі ім трэба.

### ВУЧАЦЦА ШЫЦЬ

Рагачоўскія дзяўчаты і старэйшыя жанчыны вучацца шыццю і крою. Пасля абеда ў памяшканне школы прыходзяць 22 асобы і Э. Верпахоўская ўмела, на высокім узроўні вядзе ўрокі. Вучацца ўсе ахвотна, бо разумеюць, што кожнай жанчыне вельмі карысна ўмець шыць і краіць.

Модай стала, што кожная дзяўчына — партніха, так як модна ў Рагачах сярод хлопцаў праца на чыгунцы.

### РАГАЧОЎСКІЯ «ЛЕКАРЫ»

Яшчэ да гэтага часу ў Рагачах няведы і цемра перашкаджаюць жыць многім людзям. Яшчэ і цяпер бываюць выпадкі, што хворага не вязуць да лекара, а да шаптухі, Касі Дарашчук, або замаўляйшчыка Герасея Матуевіча. І вераць яшчэ ў гэтых «чароўных» лекараў некаторыя людзі. людзі несвядомыя, цёмныя.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ



 

# ЭХ, КУЛЬТУРА...

Не многія паветы не толькі Беластоцкага ваяводства, але і іншых ваяводстваў нашай краіны, маюць такі прыгожы павятовы дом культуры, як у Міхалове Беластоцкага павета.

Новы прасторны будынак мае тэатральную залу на 300 месц, шматлікія пакоі для заняткаў самадзейных гурткоў. Ёсць тут акардэон, скрыпкі. Нават новае піяніна. Толькі, нажаль, яго мілагучныя струны ўжо некалькі год аплятаюць павукі сваімі тонкімі ўзорамі, ды часам у зімовыя вечары папіскваюць у ім мышы...

— Што ж рабіць, — кажа кіраўнічка, пані Фэрэнт, — не маем спецыяліста...

Так, ПДК у Міхалове не мае спецыялістаў. Няма добрага настаўніка музыкі, няма харэографа, няма... Многа яшчэ чаго «няма» ў гэтым доме культуры. Але затое ёсць дзяржаўныя грошы, і, скажам адкрыта, ёсць каму іх браць. ПДК у Міхалове штогод выдаткуе звыш 130 тысяч злотых. Асноўныя выдаткі — гэта аплата за працу работнікам дома. Каму? — Кіраўнічцы, кінамеханіку, электрыку, уборшчыцы, «плястычцы», сторажу, ну, і яшчэ таму - сяму з абслугі. Аднак ні залатоўкі спецыялістам па культуры і асвеце. Праўда, быў некалі інструктар па музычнай падрыхтоўцы. Але ўцёк. Некага было вучыць. Не таму, што Міхалова і яго аколіцы не любяць музыкі, а таму што кіраўніцтва дома культуры не патрапіла заахвоціць моладзь да музыкі. З Беластока прыязджаў інструктар па народнаму танцу, але не доўга. Таксама выйшла нешта не так, як трэба.

Быў дзіцячы тэатр. Як гаворыць хроніка ПДК, нават паставіў дзве п'есы. Перастаў існаваць, бо кіраўніцтва дома не змагла спалучыць сваю працу са школай. Дзеці за доўга праседжвалі ў ПДК, не вучылі ўрокаў. Бацькі і школа слушна забаранілі ім валачыцца ноччу вакол ПДК.

Сама кіраўнічка арганізавала курс крою і шыцця. Замест таго, каб запрасіць кваліфікаванага майстра са швейнай майстэрні, якая здаўна існуе ў Міхалове, кіраўнічка сама пакіравала курсам. Нягледзячы на тое, што пані Фэрэнт не многа ўмее сама, заўзята пачала яна вучыць іншых. На курс запісалася звыш 20 дзяўчат і жанчын. Яны хацелі вучыцца. Але ў пані Фэрэнт не хапіла цярплівасці (і ўмення). Пасля 2 ці 3 урокаў курс перастаў існаваць.

У Беластоцкім павеце ёсць звыш 16 самадзейных беларускіх драмгурткоў. Маюць яны многа цяжкасцей. Але ПДК у Міхалове не з'яўляецца для іх дапамогай і ўзорам. Самавучкі — артысты як агню баяцца ПДК.

Ды, зрэшты, пані Фэрэнт не мае на гэта часу. Яна занята сваімі асабістымі справамі, а справам пашырэння культуры ў Міхалове і аколіцах адводзіць час толькі між іншым.

Не малы падатак з жыхароў Беластоцкага павета знімаюць цыганкі — варажбіткі.

А што на гэта дом культуры ў Міхалове? Ён жа павінен прамяняваць асветай. Быць цэнтрам культурнага адпачынку мястэчка і навакольных вёсак. Несці культуру ў масы насельніцтва. Прапагандаваць навуковы светапогляд. Дапамагаць вясковым святліцам арганізаваць цікавыя вечарыны, дыскусіі, танцы без гарэлкі.

На справе ж жыхары Міхалова кажуць, што пані Фэрэнт сама тайком ходзіць пагадаць на картах. Ці толькі аб будучым нарачоным? Хіба, не. Часам яна раскідвае зашмальцаваныя карты і на тое, каб даведацца, колькі часу будзе цягнуцца яе бестурботнае жыццё ў Міхалове.

Мы спадзяемся, што не доўга. А як гадае Інспектарат Асветы ў Беластоку?

А. ПАДГОРСКІ

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА



Дуб Ягайлы. Фота — М. Валкавыцкі

Фальклор Беласточчыны.

## Падскокі

А я ў моры купалася,
А я ў гора папалася.
А я гора перабуду,
Як гуляла, гуляць буду.

Журылася, журылася —
Цяпер не буду,
Куплю сабе за грош хлеба,
Журыцца не буду.

Гортай, гортай бульбу з печы,
Ды ў торбачку, ды за плечы.
Сыр і дрова, горкі дым,
Пагуляла б, няма з кім.

Як пайду я на гару,
Накапаю рамону.
Хоць я сама не хароша,
Харошага падману.

Хоць у вас, хоць у нас,
То ўсё поле роўна,
Хоць у вас, хоць у нас,
Пагуляці можна.

Хоць у вас, хоць у нас,
То ўсё ў полі ядлавец.
Хоць у вас, хоць у нас
Па шэлягу маладзец.

Хоць у вас, хоць у нас,
То ўсё ў полі елка,
Хоць у вас, хоць у нас
Па тысячу дзеўка.

Запісала ВЕРА ЛЕЎЧУК у вёсцы Баброўнікі ад МАРЫІ БУБЛЕЙ 80 г. і ПЕЛАГЕІ БАЎБЛЕЙ 77 г.

*) Падскокі — прыпеўкі, якія падспеўваліся ў танцы.

# Квадрат Б-52

(Працяг са стар. 3)

У маленькай гасцініцы на вуліцы Пенрад Рагулі не аказалася. Праўда, служыцель запэўніў, што містэр Рагуля хутка будзе і, калі панам хочацца, яны могуць пачакаць яго ў холу. І сапраўды, Рагуля з'явіўся мінут праз дзесяць. Гэта быў хударлявы, сярэдняга росту чалавек, год трыццаці шасці, апрануты ў чорны прыгожы касцюм. Шэры плашч сядзеў на ім ладна і чуць скрадваў выпраўку ваеннага. Рагуля рабіў уражанне парадачнага чалавека.

Кінуўшы плашч на спінку крэсла, Рагуля прысеў, хутка прагледзеў пошту, якая прыйшла на яго імя і толькі пасля гэтага ўважліва агледзеў Арцюшэўскага.

— Ну, расказвай, хлопец, чаго сумуеш?

Арцюшэўскі расказваў аб сабе. Гаварыў доўга, збіваўся.

—Так, зразумела. — Рагуля ўстаў, прайшоўся па мяккім дыване. — Значыцца, грошай няма, патрэбна праца. А ў Беларусь вярнуцца не хочаш? Хочаш? — перапытаў ён, калі Арцюшэўскі кіўнуў галавою. —Гэта добра. Ну што ж, мы і гэта можам абдумаць... Вось што, пішы распіску — дам я табе часова дзевяць фунтаў. Бяры, бяры, гэта ў доўг, потым вернеш.

Рагуля ўзяў распіску тонкімі, дагледжанымі пальцамі, акуратна зложыў яе і палажыў у партфель.

— Цяпер мне пара ісці. Думаю, мы з табою згаворымся. Наймі недарагі пакой у гасцініцы, паведамі мне адрас і чакай вестачкі.

Прайшло два тыдні, перш чым Арцюшэўскі атрымаў тэлеграму. Рагуля прапанаваў яму прыехаць на Пенрад, у дом № 52 і зайсці да свяшчэнніка Сіповіча, ён будзе там жа.

Арцюшэўскі і раней чуў аб гэтым уцекачы — беларускім свяшчэнніку; але ў той дзень упершыню пачуў яго адрас.

На гэты раз Рагуля разгаварыўся. Ён, не спяшаючыся, як быццам бы ўзважваючы словы, сказаў:

— Цяпер усё будзе залежаць ад цябе. Сядай, пішы.

Ён працягнуў Арцюшэўскаму ліст паперы і аўтаручку. «Я, Арцюшэўскі Міхаіл Фядосавіч, — дыктаваў ён, — гэтай распіскай абяцаю грамадзяніну Рагулю і ў яго асобе Беларускай Народнай Радзе зберагчы ў таямніцы ўсё, аб чым даведаўся сёння і даведаюся пазней.»

— Напісаў?

— Так...

— Падпішы.

Арцюшэўскі падпісаў. Рагуля акуратна зложыў і гэтую распіску, не спяшаючыся схаваў яе ў кішэнь.

— Дык вось, Міхаіл Фядосавіч, — ён паклаў руку хлопцу на плячо, — я тут зрабіў даведкі, ты нам падыходзіш. Прапаную табе вярнуцца ў Беларусь, для таго, каб там дапамагаць нам. Зразумеў?



БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА
УРАД БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКІ

№ [illegible] [illegible] 20.6. 194[illegible]

Мы, Прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, гэтым сьветчым што ст.старэйшы лейтэнант Б р ы ж ы к Тракін зьяўляецца Сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з функцыяй [illegible] між Канцылярыяй Прэзыдэнта і беларускімі арганізацыямі.

Усім беларускім [illegible] і вайсковым арганізацыям [illegible], а установы і арганізацыі [illegible] нам народаў просіцца даваць спадару Брыжыку Тракіну усялякую магчымую дапамогу.

Мікола Абрамчык
ПРЭЗІДЭНТ РАДЫ Б.Н.Р.

На гэтым дакуменце подпіс здрадніка беларускага народа Міколы Абрамчыка — так званага «прэзідэнта» Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая паперка была выдана шпіёну Бэну.

— Не...

— Ну, гэта не складаная рэч, ты паедзеш у Заходнюю Германію, сустрэнешся там з маімі сябрамі, яны скажуць, што рабіць. А потым пераправяць у Саюз. Будзеш працаваць на Раду і амерыканцаў. Зразумеў?

— Зразумеў, але я не хачу стаць здраднікам...

— Здраднікам стаць не хочаш — будзеш мерцвяком! — голас Рагулі гучэў мякка, трохі насмешліва нават, а вочы былі халодныя і жорсткія.

— Няўжо табе не надакучыла цягацца без грошай па белым свеце?

— Я прасіў у вас работы...

— Гэта ж таксама работа, зразумей ты, ліхая твая галава! За яе добрыя грошы плацяць...

— Не магу.

— Не можаш — не трэба. Я думаў табе дапамагчы, а ты шмата. Дарэмна толькі патраціў час на малакасоса. Вось твая распіска, вярні доўг і забудзь, што ведаеш мяне.

— У мяне цяпер няма грошай... Я вярну пазней, калі зараблю.

— Пазней? Не, мне патрэбны цяпер. Я ж таксама з неба не хапаю. Мне яны патрэбны. А не аддасі, пазваню ў паліцыю і яны цябе зноў засадзяць у лагер гадкоў на два...

Рагуля прайшоўся з кута ў кут і раптам спыніўся насупраць Арцюшэўскага.

— Выбірай, хлопец, ці зноў турма, адкуль ты не хутка выбярэшся, аб гэтым ужо я паклапачуся, ці невялікая рызыка, але затое потым забяспечанае жыццё, грошы, домік дзе-небудзь у Францыі ці бензінавая калонка, свая справа, сям'я...

Збялелы Арцюшэўскі комкаў у руках мокрую хустку і маўчаў. А Рагуля гаварыў і гаварыў. Голас яго быў лісьлівы, мяккі, і толькі часамі ў ім праслізгваліся злосныя і ўпартыя ноткі.

— Згодзен...

— Я так і думаў, што ты будзеш разумным хлопцам. Заўтра вечарам атрымаеш білет да Мюнхена, пашпарт з візай праз Данію і сто дваццаць марак. У Мюнхене знойдзеш гасцініцу «Вюртэмбергскі палац» і дачакаешся Пятра Сыча. Сыч будзе папярэджан і зробіць усё, што трэба...

Рагуля ўзяў са століка цёмную бутэльку, паглядзеў на свет і падыйшоў да Арцюшэўскага.

— А цяпер вып'ем за твае поспехі!

І наліў у чаркі чорнага, цягучага рому.

(Працяг будзе)

